Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

15 студзеня 1927 г.

№ 2 (27)

3-ці год выданьня

Выданьне СНК БССР
Менск—1927 г.

## ЗЬМЕСТ

— - —

### Частка афіцыйная

Стар.



### Частка неафіцыйная.

---

## Памылкі.

У Бюлетэні № 1 (26) за 1 студзеня 1927 г, ў артыкуле „Аб тым, як трэба разумець некаторыя артыкулы інструкцыі аб выбарах ў саветы“ на старонцы 36, п. 1 ы трэба чытаць: „1. Пункт 1 ўвагі да пункту «а» арт. 32-га ні ў якім выпадку нельга разглядаць, як знаходзячыйся ў супярэчнасьці або зьнішчаючы сэнс грунтоўнага пункту (пункту «а»], з прычыны таго, што паказаны п. 1-шы ўвагі ня можа быць аддзелены ад наступнага за ім 2-га пункту ўвагі“.

У п. 2-м на тэй-жа старонцы ў першым радку надрукавана: «П. «а» арт. 32-га з увагамі да яго . . »; трэба чытаць: «П «а» арг. 32-га з увагай да яго» . . .

У п. 3 м на тэй жа старонцы, у 8 радку зьверху надрукавана „. . . пункт «а» арт. 32-га з увагамі . . . “; трэба чытаць: „. . . п. «а» арт. 32-га з увагай.“ . . .

---

## 1. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАРАДКУ ВЫКАНАНЬНЯ РАШЭНЬНЯЎ ПАСРЭДНІЦКІХ СУДОЎ.

*Народным Судом і Інспэкцыям (Аддзелам) Працы.*

У разьвіцьцё арт. 174 Кодэксу Законаў аб Працы, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Працы БССР прапануюць прыняць да кіраваньня і выкананьня наступае:

1) У тым выпадку, калі патрэбна прымусовае выкананьне рашэньняў пасрэдніцкіх судоў супроць наймальніка, то ісьцец або адпаведны прафэсіянальны саюз падаюць у народны суд копію пасрэдніцкага запісу і рашэньня пасрэдніцкага суду, пасьведчаныя органам Народнага Камісарыяту Працы, склаўшым запіс; на копіі рашэньня орган Народнага Камісарыяту Працы робіць надпіс, які сьведчыць аб законнасьці рашэньня пасрэдніцкага суду з погляду падсуднасьці гэтае справы пасрэдніцкаму суду і адпаведнасьці рашэньня законадаўству аб працы.

*Увага.* Калі пасрэдніцкі суд арганізаваны ў парадку ч. 2 арт. 171 Кодэксу Законаў аб Працы, складаньне пасрэдніцкага запісу неабавязкова.

2) Народны судзьдзя, упэўніўшыся ў тым, што зазначаны надпіс інспэкцыі (аддзелу) працы ёсьць і ў тым, што рашэньне пасрэдніцкага суду не пярэчыць закону, выдае выканальны ліст, на падставе якога рашэньне выконваецца ўстаноўленым Гр. Прац. Кодэксам парадкам.

3) Адмаўленьне Народнага судзьдзі выдаць выканальны ліст можа быць абскарджана спаганяючай асобай або органамі інспэкцыі (аддзелу) працы ў парадку арт. 203 Гр.-Пр. Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Г. Нямытых.**

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Загадчык Агульнага Аддзелу Н. К. Працы БССР **І. Акулаў.**

24 сьнежня 1926 г.
№ 22.

---

## 2. Такса збораў за засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі, сельскімі і местачковымі саветамі зьдзелак, дагавораў і дакумэнтаў.

На падставе пастаноў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 5 сакавіка і 18 верасьня 1926 году (З. З. БССР № 12, арт. 45 і № 40, арт. 149) устанаўляецца з моманту апублікаваньня паказаная ніжэй такса збораў за засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі, сельскімі і местачковымі саветамі зьдзелак, дагавораў і дакумэнтаў.

## 1. Агульныя палажэньні.

1. Установы, асобы і дакумэнты, якія пазбаўляюцца ад збораў, паказаны ў пераліку, далучаным да таксы; апрача гэтага, раённыя выканаўчыя камітэты, сельскія і местачковыя саветы могуць звальняць ад збораў незаможных асоб.

2. У выпадку ўдзелу ў зьдзелцы асоб або ўстаноў, зволеных ад уплаты натарыяльных збораў, гэтыя зборы выплачваюцца другою стараною, калі самыя зьдзелкі (дакумэнты) ня зволены ад збораў.

Выплата збораў робіцца пры самым засьведчаньні зьдзелкі (дакумэнту) бяз усякай растэрміноўкі.

## 2. Стаўкі збораў.

1. За засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі дагавораў аб працоўнай арэндзе зямлі спаганяецца з сумы дагавору да 500 р. —$^1/_4$%, але ня ніжэй 50 кап., а з сумы дагавору вышэй 500 руб.— $^1/_2$ проц.

Пры вызначэньні сумы зьдзелкі для спагнаньня збораў за засьведчаньне ўжываюцца тыя самыя правілы, што і для спагнаньня гэрбавага збору, згодна арт. 5 інструкцыі аб ужываньні статуту аб гэрбавым зборы.

Сума зьдзелкі лічыцца тая, якая абвешчана старанамі і можа выяўляцца або ў грошах або ў натуры (напрыклад, с т о л ь к і-т а п у д о ў жыта).

Кошт прадметаў вызначаецца старанамі, а калі ён ня вызначан, то вызначаецца па даведачных цэнах адпаведных устаноў у момант заключэньня зьдзелкі.

2. За засьведчаньне ўсякага роду надпісаў, якія робяцца старанамі на дагаворах аб працоўнай арэндзе зямлі, спаганяецца 50 к. за надпіс.

3. За засьведчаньне дагавораў аб працоўнай арэндзе зямлі, сума якіх ня можа быць вызначана ў момант засьведчаньня, спаганяецца адначасна адзін (1) рубель.

4. За засьведчаньне даверанасьцяй, якія выдаюцца:

а) на вядзеньне спраў у судовых і ў іншых урадавых установах працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі, а таксама пачатковымі каапэратывамі (вытворчымі, спажывецкімі, крэдытнымі і г. д.),—спаганяецца 25 к. з даверанасьці;

б) на заключэньне працоўнымі землякарыстальнікамі дагавораў працоўнае арэнды зямлі—50 к. за даверанасьць;

в) на заключэньне працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі дагавораў арэнды дзяржаўнае зямельнае маемасьці—50 к. за даверанасьць;

г) на падпісаньне абавязнасьцяй пры пакупцы працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі ў розьніцу з выплатаю ратамі сельска-гаспадарчых машын і прыладаў—25 кап. з даверанасьці.

5. Пры засьведчаньні даверанасьці, якая выдаецца некалькімі асобнымі грамадзянамі ці некалькімі юрыдычнымі асобамі разам, звыш устаноўленай платы за даверанасьць спаганяецца па 10 кап. з кожнай асобы, апрача першай.

6. За засьведчаньне арыгіналу подпісаў на заявах, павестках і іншых дакумэнтах, але ня зьдзелках або дагаворах, спаганяецца 10 кап.

*Увага.* Засьведчаньне арыгіналу подпісаў на паштовых павестках, а таксама засьведчаньне даверанасьцяй, якія выдаюцца

на атрыманьне грашовае і пасылачнае карэспандэнцыі, робіцца бясплатна.

7. За засьведчаньне подпісаў за няпісьменных сялян на абавязасьцях, якія выдаюцца імі пры пакупцы ў розьніцу з растэрміноўкаю выплаты сельска-гаспадарчых машын і прыладаў—спаганяецца па 10 кап. за кожны подпіс.

8. За выдачу выпіскі з рэестру—па 15 к. за старонку.

9. За засьведчаньне копій дакумэтаў выданых або засьведчаных дзяржаўнымі ўстановамі:

а) з зьдзелак-спаганяецца па 25 к. з кожнай старонкі;

б) з другіх дакумэнтаў—па 15 к. з кожнай старонкі.

*Увага* 1. Зборы за выдачу выпісаў або засьведчаньне копій ня могуць быць вышэй за зборы за засьведчаньне арыгіналаў гэтых самых дакумэнтаў.

*Увага* 2. Ва ўсіх выпадках, паказаных у таксе, у старонцы лічыцца 25 радкоў.

## ДАДАТАК ДА ТАКСЫ ЗБОРАЎ ЗА ЗАСЬВЕДЧАНЬНЕ РАЁННЫМІ ВЫКАНАЎЧЫМІ КАМІТЭТАМІ, СЕЛЬСКІМІ І МЕСТАЧКОВЫМІ САВЕТАМІ ЗЬДЗЕЛАК, ДАГАВОРАЎ І ДАКУМЭНТАЎ

### 1. Пералік выняткаў па зборах за засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі, сельскімі і мэстачковымі саветамі зьдзелак, дакумэнтаў і дагавораў.

Установы і асобы, якія звальняюцца ад збораў:

1. Камітэты Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі.

2. Таварыства дапамогі афярам інтэрвэнцыі, яго органы і ўсе грамадзяне БССР па афармленьні дакумэнтаў, якія накіроўваюцца таварыству дапамогі афярам інтэрвэнцыі і яго органам.

3. Асобы, якія прызнаны судом, згодна п. „в“ арт. 43 Г. П. К., ня маючымі сродкаў да аплаты пошлін па судовых справах, пры засьведчаньні дакумэнтаў і копій для прыкладаньня да спраў, па якіх адбылося такое рашэньне Суду.

### 2. Дакумэнты, якія звальняюцца ад збораў.

1. Дакумэнты дабравольных пажарных арганізацый, зьвязаныя афармленьнем іх арганізацыі.

2. Дакумэнты па справах, якія тычацца адносін грамадзян да прызыву і п р а х а д ж э н ь н я вайскавой службы.

3. Даверанасьці на атрыманьне і спагнаньне заработнае платы ніжэй 13 разраду, а таксама пэнсіі і дапамогі па сацыяльным забясьпечаньню.

4. Дагаворы па дзяржаўнай насеннай пазычцы, якія робяцца беспасрэдна з насяленьнем.

5. Даверанасьці на атрыманьне тэлеграм, абвестак і наогул усякай карэспандэнцыі, а таксама д а в я р ы ц е л ь н ы я н а д п і с ы на паштовых абвестках, дублікатах, пераснлках і г. д.

6. Засьведчаньне надпісу і а с а б і с т а с ь ц і атрымацеляў усякай карэспандэнцыі.

7. Засьведчаньне копій дакумэнтаў, якія падаюцца пры паступленьні ў навучальныя ўстановы.

8. Дакумэнты па справах спагнаньня ўсякага роду заработнай платы і сродкаў на ўтрыманьне.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Час. Вык. аб. Народнага Камісара Фінансаў БССР **М. Абрамсон.**

Н. К. Юстыцыі № 157. «30» сьнежня 1926 г.
Н. К. Грашовых Спраў № 4711. «24» сьнежня 1926 г.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

АБ УРЭГУЛЯВАНЬНІ ПЫТАНЬНЯ ПА ПАДЛІКУ НАТУРАЛЬНАГА РУХУ НАСЯЛЕНЬНЯ

*Акруговым Выканаўчым Камітэтам БССР.*

Для ўрэгуляваньня пытаньня па падліку натуральнага руху насяленьня ў зьвязку з увядзеньнем новых форм актавых кніг Народны Камісарыят Унутраных Спраў прапануе кіравацца наступным:

1. Статыстычная картка, як самастойная форма, скасоўваецца і замяняецца другім экзэмплярам актавых кніг.

2. Мясцовыя органы ЗАГС (гарадзкія, раённыя, сельскія і местачковыя) штомесячна, не пазьней 5-га дня наступнага месяца павінны адсылаць другія экзэмпляры актавых кніг (запісаў) у акруговыя органы ЗАГС.

*Увага.* Сельскія і Местачковыя ЗАГС адсылаюць паказаныя запісы праз адпаведныя Раённыя ЗАГС.

3. Адсылка другіх экзэмпляраў павінна рабіцца акуратна, дзеля чаго гэтыя экзэмпляры запісаў трэба адразаць па паказаных надрэзах і накіроўваць іх у канвэрце, з паказаньнем іх колькасьці і нумароў (напрыклад: 32 акты аб нараджэньні з № 1 па 32 ўключна).

4. Акруговыя органы ЗАГС, па атрыманьні другіх экзэмпляраў павінны накіроўваць іх у сэкцыю Акруговага Статбюро для адпаведнай апрацоўкі, паказваючы, па ўмаўленьні з апошнім, вызначаны тэрмін, пасьля якога другія экзэмпляры павінны быць зьвернуты адпаведным Акруговым ЗАГС.

*Увага.* Тэрмін знаходжаньня другіх экзэмпляраў у Акруговых Статыстычных Бюро пажадана вызначыць месячны.

5. Акруговыя органы ЗАГС, па атрыманьні ад Акруговых Статбюро другіх экзэмпляраў (пасьля апрацоўкі) павінны іх падбіраць у альфабэтным парадку ў канцы году, сшываць і пераплятаць у асобныя кнігі, робячы адпаведныя адзнакі літараў альфабэту і году па карэнчыку кожнай кнігі.

*Увага.* Паказаныя другія экзэмпляры кніг павінны быць сшыты па кожнаму гарадзкому, раённаму, сельскаму і местачковаму органах ЗАГС паасобна.

6. Для большага захаваньня другіх экзэмпляраў запісаў актаў грамадзянскага стану, а таксама правільнай работы па падліку нату-

ральнага руху насяленьня пажадана, каб распрацоўка статыстычных данных рабілася ў памяшканьні Акруговых ЗАГС, для чаго апошнія па магчымасьці павінны выдзеліць асобны пакой для Сэкцыі Акруговага Статыстычнага Бюро.

Народны Камісар Унутраных
Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Начальнік Адміністрацыйна-Арганізацыйнае
Ўправы НКУС **П. Новікаў.**

6 студзеня 1927 г.
№ 2.

---

## 4. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ ФОРМЕ І ПАРАДКУ РЭГІСТРАЦЫІ РАЁННЫМІ ВЫКАНАЎЧЫМІ КАМІТЭТАМІ ПРАЦОЎНЫХ КАНФЛІКТАЎ, ЯКІЯ ВЫНІКАЮЦЬ ПРЫ ЎЖЫВАНЬНІ НАЁМНАЕ ПРАЦЫ Ў СЯЛЯНСКІХ ГАСПАДАРКАХ.

У дадатак да інструкцыі Народнага Камісарыяту Працы, Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР за 21/X—1925 году „аб парадку вырашэньня працоўных спрэчак, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках“, (Збор Зак. БССР за 1926 г. № 5, арт. 19), Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляюць:

1) Усе спрэчкі, вынікаючыя пры ўжываньні наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках і накіраваныя для вырашэньня ў міравыя камісіі пры раённых выканаўчых камітэтах, павінны рэгістравацца Раённымі Выканаўчымі Камітэтамі.

2) Кожны месяц Раённыя Выканаўчыя Камітэты складаюць зборную ведамасьць аб спрэчках, якія паступілі на вырашэньне ў міравую камісію і накіроўваюць яе ў адным экзэмпляры ў адпаведную Акруговую Інспэкцыю (Аддзел) Працы і ў другім экзэмпляры—у Народны Камісарыят Працы БССР—не пазьней 10 дня наступнага месяца.

Зборная ведамасьць складаецца па наступнай форме:

Ведамасьць спрэчак, якія разгледжаны ў міравой камісіі

__________ раёну __________ акругі

за __________ месяц 192___ г.

| Агульны лік заяў, якія паступілі ў Міравую Камісію за справаздачны месяц | Агульны лік спрэчак, якія разгледжаны за справаздачны м-ц. | Лік спрэчак не разгледжаных з прычыны: | | | Лік спрэчак, па якіх стораны пагадзіліся. | | Лік спрэчак, па якіх стораны не пагадзіліся. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Незьяўленьня старон. | Адсутнасьці паўнамоцтваў. | Іншых выпадкаў. | Па ўсіх пытаньнях. | Па частцы пытаньняў | |
| | | | | | | | |

Подпісы: Старшыня Раённага Выканаўчага Камітэту

Сакратар Міравой Камісіі

*Увага* 1. Разам з ведамасьцю Раённы Выканаўчы Камітэт накіроўвае ў адпаведную Акруговую Інспэкцыю (Аддзел) Працы копіі ўсіх пратаколаў пасяджэньняў Міравых Камісій за справаздачны месяц.

*Увага* 2. Копіі пратаколаў Міравых Камісій, у якіх будуць якія-небудзь парушэньні Законаў аб Працы, альбо устаноўленых для Міравых Камісій працэсуальных правіл накіроўваюцца Інспэкцыямі (Аддзеламі) Працы ў Народны Камісарыят Працы БССР не пазьней 25-га дня наступнага за справаздачным месяца.

3) У пратаколах Міравых Камісій (дадатак да інструкцыі Народнага Камісарыяту Працы, Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР за 21/X 1925 году) трэба паказваць ўзрост і пол парабкоў, месяц, дзень і год заяўленьня спрэчкі ў Міравую Камісію.

Народны Камісар Працы БССР **С. Ерафееў.**

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР **Е. Кроль.**

Загадчык Агульнага Аддзелу Народнага
Камісарыяту Працы БССР **І. Акулаў.**

22 сьнежня 1926 г.
№ 21.

---

## 5. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ НЕДАПУШЧЭНЬНІ ПАВЯЛІЧЭНЬНЯ СТАВАК ЗАРПЛАТЫ, УСТАНОЎЛЕНЫХ САВЕТАМ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР НА 1926—27 БЮДЖ. ГОД.

У зьвязку з тым, што некаторыя Інспэкцыі (Аддзелы) Працы патрабуюць павялічэньня ставак зарплаты, зацьверджаных па каштарысу, Народны Камісарыят Працы БССР растлумачвае, што згодна пастановы, Савет Народных Камісараў БССР за 14/VII 1926 г. (Збор Зак. 1926 г. № 33, арт. 126) крэдыты, якія адпускаюцца паводле каштарысаў на зарплату, могуць выдавацца толькі на ўстаноўленыя аклады для кожнае пасады без якіх-небудзь зьмен і без дапаўненьняў з іншых крэдытаў. Зьмены, якія выклікаюцца надзвычайнаю патрэбаю, у паасобных акладах на працягу бюджэтнага году ў межах фонду зарплаты для кожнага ведамства могуць быць зроблены толькі паводле пастановы Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР на аснове абгрунтованага хадайніцтва ўстановы.

Такім чынам Інспэкцыі (Аддзелы) працы не павінны патрабаваць ад ведамстваў якіх-небудзь зьмен у стаўках.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Заг. Тарыфна-Канфл. Аддзелу
Народнага Камісарыяту Працы БССР **Гольдберг.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКЮ **І. Акулаў.**

20 сьнежня 1926 г.
№ 19.

---

## 6. Пастанова Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі і Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ РАЗБРАНІРАВАНЬНІ ПЕРАРОСТКАЎ, ЯКІЯ ЛІЧАЦЦА Ў БРОНІ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ.

Маючы на ўвазе, што значная колькасьць пераросткаў, якія знаходзяцца ў броні на прадпрыемствах, фактычна зьніжае ўстаноўлены звычайны процант броні падлеткаў на гэтых прадпрыемствах і гэтым самым перашкаджае правільнаму правядзеньню нормы броні па прамысловасьці, Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі і Народны Камісарыят Працы БССР прапануюць у бліжэйшы час правесьці наступнае:

1) Адміністрацыі прадпрыемстваў на мясцох пры ўдзеле прадстаўнікоў прафэсіянальных арганізацый і мясцовых органаў Народнага Камісарыяту Працы, неабходна тэрмінова праверыць колькасьць падлеткаў і пераросткаў, якія знаходзяцца ў парадку броні і вучацца на прадпрыемстве, як у парадку асабовага і брыгаднага, так і фабрычна-заводзкага вучнёўства, а таксама выявіць колькасьць пераросткаў, працуючых у парадку броні на дапаможнай чорнай рабоце, і намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па разбраніраваньні пераросткаў.

2) У адпаведнасьці з дырэктывамі Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі, Усесаюзнага Цэнтральнага Савету Прафэсіянальных Саюзаў і Народнага Камісарыяту Працы лінія па разбраніраваньні пераросткаў павінна выяўляцца ў наступным:

а) безадкладна разбраніраваць пераросткаў, якія лічацца ў броні і працуюць на чорнай і дапаможнай працы;

б) разбраніраваць пераросткаў, якія вучацца ў парадку асабовага і брыгаднага навучаньня, калі яны маюць кваліфікацыю ня ніжэй 4-га разраду і могуць быць скарыстаны на самастойнай працы;

в) што тычыцца школ фабрычна-заводзкага вучнёўства, то трэба пераросткаў пакінуць у школах да канца курсу навучаньня. У тых выпадках, калі ў першых групах школ ФЗВ будзе многа пераросткаў, трэба паставіць пытаньне аб арганізацыі для іх каротка-тэрміновага выпуску з школы або пераводзіць іх з школы ФЗВ ў прадпрыемствы, каб яны атрымалі там кваліфікацыю ў парадку асабовага навучаньня.

3) Пры правядзеньні працы па разбраніраваньні пераросткаў не дазваляецца скарачэньне іх з прадпрыемства; яны павінны пераводзіцца ў асноўны штат рабочых і служачых гэтага прадпрыемства ў адпаведнасьці з той кваліфікацыяй, якой яны навучаліся.

4) У тых прадпрыемствах, дзе разбраніраваньне па цэлым шэрагу вытворчых прычын нельга правесьці ў бліжэйшы час, трэба ўмовіцца з гаспадарчым органам аб тым, у які час ён павінен разбраніраваць пераросткаў, але гэта работа павінна быць скончана на працягу 3—6 месяцаў, пры гэтым разбраніраваныя пераросткі павінны быць уключаны ў штаты праз скарачэньне звышмернай працы, а таксама праз скарыстаньне ўсіх вакантных пасад, якія ёсьць на прадпрыемстве, дазваляючы работу гэтых пераросткаў у шкодных цэхах,

5) У далейшым Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі і Народны Камісарыят Працы БССР прапануюць ні ў якіх выпад-

ках не накіроўваць і ня прымаць на работу ў парадку броні падлеткаў старэй 16—17 год і прымаць пад увагу ў кожным выпадку час, патрэбны для навучаньня вучня.

За Старшыню Вышэйшага Савету
Народнае Гаспадаркі БССР **К. Арндт.**

Намесьнік Народнага
Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Загадчык Агульнага Аддзелу Народнага
Камісарыяту Працы БССР **І. Акулаў.**

Узгодзена з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў БССР: Пратакол пасяджэньня Прэзыдыуму ЦСПСБ за 27 лістапада 1926 г., № 48.

24 сьнежня 1926 г.
№ 23.

---

## 7. Абежнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ ПАРАДКУ ПЕРАСЫЛКІ І ЗАХАВАНЬНЯ ПЛЯНАЎ АД ЗЬНІШЧЭНЬНЯ.

*Акруговым Зямельным Аддзелам, Зямельным Камісіям і Земляўпарадчыкам.*

Пачаўшыя паступаць на захаваньне ў Цэнтральны Зямельны Архіў земляўпарадчыя пляны і тэхнічныя справаводзтвы да іх прысылаюцца Акруговымі Зямельнымі Аддзеламі ў большасьці ў дрэнным выглядзе. Апроч таго, што пляны часта ня маюць належных надпісаў аб пасьведчаньні, яны ў большасьці бываюць папсаванымі і нават не падклеенымі. Апошняе часткова можна тлумачыць тым, што ў першыя гады правядзеньня земляўпарадкаваньня пляны складаліся на кепскай паперы, але ня малую ролю адыграў тут дрэнны нагляд за перасылкай і захаваньнем плянаў.

Для ліквідацыі адзначаных вышэй зьявішч на будучы час прапануецца да выкананьня наступнае:

1. Як перасылка плянаў, так і захаваньне (часовае і пастаяннае) не дазваляецца зложанымі.

2. Пры перасылцы пляны павінны быць навітымі на драўляную палку, альбо на кардонную трубку—трошкі даўжэйшую за пляны, каб не псаваліся берагі. Пасылка ўкладваецца ў кардонную трубку.

3. На захаваньне ў Цэнтральны Зямельны Архіў пляны павінны прысылацца з сьпіскам наступнай формы:

| Чарговы № | Падрабязная назва землякарыстаньняў | Год выкананьня работы | Раен | Сельсавет | Плошча | | | Справа | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Выгоднай | Нявыгоднай | Усяго | Пачалася | Вырашана | Скончана | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |

4. На першай старонцы вокладкі тэхнічнага справаводзтва павінны быць наступныя надпісы:

а) каморніцка-тэхнічнае справаводзтва; б) хто вёў, в) акруга, г) раён, д) сельскі савет, е) год, ж) падрабязная назва землякарыстаньняў.

Калі земляўпарадкаваньне праведзена да раёнаваньня, то ў дужках паказваюцца былўшыя павет і воласьць.

5. На 2-й старонцы вокладкі павінна быць зьмешчана апісаньне папер па наступнай форме:

| Чарг. № | Назва паперы | На якой старонцы | Колькі аркушаў |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | | |

6. Парваныя пляны павінны быць абавязкова належным чынам падклееныя. Калі план захоўваўся раней зложаным і мясцамі на загібах парваўся, альбо працёрся, то ён падклейваецца стужкамі праз усю даўжыню загібу.

7. Адваротная старана пляну павінна быць чыстаю і бяз жадных надпісаў. Выключэньне дазваляецца ў тых выпадках, калі на першай старонцы няма магчымасьці зрабіць надпісы аб запісе землякарыстаньняў у асноўныя рэестры, тагды гэтыя надпісы робяцца на адваротнай старане.

8. Пры капіраваньні зямельных запісаў і здымкаў на кальцы не дазваляецца калоць кнопкамі рысунку, лічбаў і экспплікацыі пляну.

9. На далейшы час запрапанаваць тэхнікам пакідаць на плянах берагі ня вужэй, як 3 см., якой-бы велічыні плян ня быў; 2 см. павінны быць цэлымі бяз уколаў, а 1 см., пасьля капіроўкі, як пакалаты кнопкамі, абрэзваецца.

10. На далейшы час не дазваляецца перасылаць с а п р а ў д н ы х плянаў разам з справамі для разгляду ў зямельных камісіях. Пасьля складаньня земляўпарадчага праэкту і паказаньня яго старанам, земляўпарадчыкі зараз-жа здымаюць копію пляну на кальцы, якую і здаюць разам са справаю ў зямельныя камісіі. Пасьля нанясеньня ў далейшым на гэтую копію тых зьмен, якія будуць зроблены камісіямі і пасьля параўнаньня гэтай копіі з арыгіналам пляну, які адсылаецца ў Кіраўмэліязем, копія пакідаецца для захаваньня ў акруговым зямельным архіве.

11. Наогул трэба ўсім земляўпарадчым установам зрабіць усе захады аб тым, каб арыгіналы плянаў і справаводзтвы да сканчэньня спраў заставаліся цэлымі, ня зьнішчанымі, а для захаваньня ў архіў здаваліся ў зусім добрым выглядзе.

Начальнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй НКЗ БССР **А. Шычко.**

Старшыня Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю пры НКЗ БССР **Я. Лабаноўскі.**

Загадчык Аддзелу Земляўпарадкаваньня **Ў. Ліодт.**

10 студзеня 1927 г.
№ 3/з. 591.

## 8. ПЫТАНЬНІ І АДКАЗЫ.

### Запытаньне Юшкавіцкага сельскага савету Любаньскага раёну Слуцкай акругі:

ПЫТАНЬНЕ 1. Колькі зямлі адводзіцца працоўнай сельскай гаспадарцы пры правядзеньні ўнытрыпасельнага земляўпарадкаваньня.

АДКАЗ. На моцы арт. 121 Зям. Код., пунктаў 8 і 9 абежніку Земляробства за 4 красавіка 1925 г. № 17 і пункту 5 абежніку за 28 ліпеня 1926 г. № 18 пры ўнытрыпасельным земляўпарадкаваньні— гаспадаркі, якія ня прызнаны культурнымі і маюць зямлі больш максімальнай нормы, атрымліваюць гэтую норму; гаспадаркі, забясьпечаныя зямлёю ў граніцах паміж мінімальнаю і максімальнаю нормаю, атрымліваюць сваё фактычнае землякарыстаньне, а гаспадаркі, у якіх зямлі менш мінімальнай нормы, атрымліваюць яе прапарцыянальна працоўным адзінкам. Калі пры гэтым ня хопіць зямлі для надзяленьня ўсіх малазямельных гаспадарак па мінімальнай норме, то раней за ўсё надзяляюцца зямлёю самыя бедныя многасямейныя двары і сем'і чырвонаармейцаў; усім іншым малазямельным дваром адводзіцца іх фактычнае землякарыстаньне па магчымасьці на прысядзібных землях. Гаспадаркі, якія пры земляўпарадкаваньні, не атрымаюць мінімальнае нормы, карыстаюцца пераважным правам на надзяленьне зямлёю са складу дзяржаўнага запаснага фонду і на перасяленьне.

### Запытаньне Аршанскага Акруговага Зямельнага Аддзелу за 29 ліпеня 1926 г. № 10177:

ПЫТАНЬЕ 2. Як трэба паправіць Земляўпарадчы праэкт і экспплікацыю пляну, якія канчаткова зацьверджаны акруговаю зямельнаю камісіяю, калі пасьля зацьверджаньня зьмяніліся на месцы акалічнасьці справы. Напрыклад, у праэкце паказана сельска-гаспадарчая арцель на дзяржаўнай зямельнай маемасьці, аддзел-жа дзяржаўных зямельных маемасьцяй адмаўляецца цяпер ад гэтай зямлі, а арцель просіць разьмеркаваць яе на пасёлак. Альбо другі выпадак— гаспадаркі, атрымаўшы зямлю паводле зацьверджанага праэкту, дабравольна потым памяняліся сваімі дзялянкамі.

АДКАЗ. Выкананы ў натуры і канчаткова зацьверджаны акруговаю зямельнаю камісіяю, у парадку арт. 173 Зям. Код., земляўпарадчы праэкт ня можа папраўляцца, калі нават і былі пасьля гэтага зьмены ў складзе землякарыстаньняў на месцы.

Калі сельска-гаспадарчая арцель, утвораная на падставе земляўпарадчага праэкту на дзяржаўнай зямлі, атрымае гэтую зямлю для працоўнага карыстаньня на заўсёды, то для разьмеркаваньня яе на пасёлак арцель павінна ліквідавацца і падняць потым хадайніцтва, паводле арт. 163 Зям. Код., аб правядзеньні новага земляўпарадкаваньня.

Мяняцца зямельнымі дзялянкамі гаспадаркі могуць на моцы арт. 26 З. К. і толькі з дазволу зямельных органаў. Апошнія дазваляюць абмен, калі знойдуць, што ён не прыкрывае незаконнай зямельнай умовы і зьяўляецца гаспадарча мэтазгодным.

На зьмену тлумачэньня 5 журналу № 6 распарадчага пасяджэньня Асобай Калегіі за 20 сакавіка 1926 г. паведамляецца, што зямлёю можна мяняцца: а) у парадку спрошчанага земляўпарадкаваньня, б) пры правядзеньні агульнага земляўпарадкаваньня. Аб-

мены дзялянкамі, якія зроблены дварамі ў працэсе поўнага разьмеркаваньня зямель грамады, афармляюцца землеўпарадчыкамі. Ва ўсіх-жа іншых выпадках абмен зямлі робіцца толькі ў парадку спрошчанага землеўпарадкаваньня, пры якім сельскім саветам высьвятляецца гаспадарчая мэтазгоднасьць абмену, складаецца праэкт яго і паказваецца зацікаўленым старанам і зямельнай грамадзе. Пасьля гэты праэкт разам са скаргамі, калі яны будуць заяўлены на працягу двух тыдняў ад дня паказаньня праэкту, падаецца на разгляд раённай зямельнай камісіі як землеўпарадчая справа.

Запытаньне Віцебскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 29 верасьня 1926 г. № 14448:

ПЫТАНЬНЕ 3. Ці можа акруговая зямельная камісія прапанаваць старанам з заяўленымі імі іскамі аб стратах зьвярнуцца ў суд, калі яна, разгледзеўшы іск раённага выканаўчага камітэту аб скасаваньні дагавору цаною больш за 1000 руб. на аддачу ў арэнду дзяржаўнай зямельнай маемасьці прыватнай асобе, прызнае гэты дагавор па форме (арт. 29 Гр. Код.) неправадзейным.

АДКАЗ. Калі акруговая зямельная камісія прызнае неправадзейным дагавор на аддачу ў арэнду дзяржаўнай зямельнай маемасьці з тае прычыны, што дагавор гэты ня быў пасьведчаны ў натарыяльным парадку, то яна павінна на моцы арт. 20 інструкцыі аб парадку справавядзеньня ў зямельных камісіях разглядзець па сутнасьці ў свой час заяўленыя старанамі іскі аб стратах, зробленых старанамі.

Запытаньне Магілёўскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 7 кастрычніка 1926 г. № 8191:

ПЫТАНЬНЕ 4. Ці мае права раённая зямельная камісія назначаць тэхнічных працаўнікоў (землеўпарадчыка і сэкратара) дакладчыкамі пры разглядзе падсудных ёй спраў?

АДКАЗ. На моцы арт. 88 інструкцыі аб парадку разгляду спраў зямельнымі камісіямі землеўпарадчык і сэкратар могуць быць дакладчыкамі па справе, якая разглядаецца раённаю зямельнаю камісіяю.

ПЫТАНЬНЕ 5. Ці мае права тэхнічны супрацоўнік, які дакладвае справу ў раённай зямельнай камісіі, выходзіць з салі пасяджэньняў разам з судзьдзямі ў дарадчы пакой?

АДКАЗ. На моцы арт. 93 інструкцыі дакладчык можа прысутнічаць на нарадзе судзьдзяў.

ПЫТАНЬНЕ 6. Ці мае права акруговая зямельная камісія прыцягваць да дысцыплінарнай адказнасьці працаўнікоў раённай зямельнай камісіі?

АДКАЗ. Акруговая зямельная камісія павіннна, калі трэба прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасьці склад раённай зямельнай камісіі, хадайнічаць аб гэтым перад прэзыдыумам акруговага выканаўчага камітэту паводле арт. 5 і 6 палажэньня аб дысцыплінарных судох (Збор. Зак. БССР за 1924 г. № 27, арт. 236).

Адказы на пытаньні 1—6 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры НКЗ БССР (журнал распарадчага пасяджаньня АКВК за 15 сьнежня 1926 г. № 20).

## Запытаньні Віцебскай Акруговай Зямельнай Камісіі, пададзеныя ў Асобую Калегію Вышэйшага Кантролю 1 кастрычніка 26 г.:

ПЫТАНЬНЕ **7.** Ці можна данадзяляць зямлёю грамадзян, якія атрымалі ў парадку савецкага земляўпарадкаваньня зямлю, але менш мінімальнай нормы?

АДКАЗ. Гаспадаркі, якія пры земляўпарадкаваньні не атрымалі мінімальнай нормы, карыстаюцца як малазямельныя, правам на данадзяленьне іх з запаснага фонду ў парадку ўстаноўленай чаргі. Таксама такім-жа правам карыстаюцца і гаспадаркі, якія атрымалі мінімальную норму на 4 працоўныя адзінкі, калі па мясцовых умовах ёсьць магчымасьць іх данадзяліць з падлічваньнем усіх адзінак гаспадаркі, дзеля таго, што гаспадаркі, якія былі арганізаваны ў парадку земляўпарадкаваньня пры Савецкай Уладзе, не падлягаюць толькі абрэзцы, а не данадзяленьню па сэнсу пунктаў 1 і 5 пастановы Савету Народных Камісараў за 6 чэрвеня 1925 г. аб парадку ужываньня норм працоўнага землякарыстаньня.

ПЫТАНЬНЕ **8.** Ці бярэцца судовая пошліна за справы аб разьмеркаваньні запаснага фонду сярод патрабуючых зямлі грамадзян, калі землянадзяленьне праводзіцца не пры земляўпарадкаваньні, а сіламі сельскіх саветаў?

АДКАЗ. Землянадзяленьне ва ўсіх выпадках павінна праводзіцца ў парадку земляўпарадкаваньня на моцы арт. 15 Зям. Код. Земляўпарадчаю зьяўляецца справа і тагды, калі сельскі савет надзяляе паасобную гаспадарку зямлёю, паступіўшаю ў склад запаснага фонду на падставе арт. 59 Зям. Код. (Бюл. СНК за 1926 г. № 4, стар. 77, пыт. 4 і № 5 стар. 113, пытаньне 31). А таму на моцы арт. 29 інструкцыі за 20 мая 1926 г. аб парадку спагнаньня судовай пошліны зямельнымі камісіямі (Бюл. СНК № 7, стар. 29) за справы аб землянадзяленьні судовая пошліна не бярэцца.

ПЫТАНЬНЕ **9.** Ці можна рабіць сямейна-маемасныя падзелы паводле рашэньняў зямельных камісій, маючы на ўвазе, што пастановаю Савету Народных Камісараў за 10 красавіка 1925 г. падзелы прыпынены?

АДКАЗ. На моцы пункту 1 пастановы Савету Народных Камісараў за 10 красавіка 1925 г. (Зб. Зак. БССР № 24, арт. 220) прыпынена, наогул, прыняцьце раённымі зямельнымі камісіямі іскаў аб сямейных падзелах. Адзначаныя камісіі могуць рабіць судовы падзел гаспадарак, якія не падлягаюць абрэзцы, толькі ў выключных выпадках. Выключныя акалічнасьці, якія даюць зямельнай камісіі падставу прыняць іск аб падзеле да свайго разгляду, павінны быць устаноўлены ў кожным паасобным выпадку старшынёй зямельнай камісіі пры прыняцьці іскавой заявы.

ПЫТАНЬНЕ **10.** Ці можа быць зьвернута істцу судовая пошліна ў тым выпадку, калі зямельная камісія, прыняўшы да свайго разгляду іск аб падзеле гаспадаркі са спагнаньнем судовай пошліны, адмовіла ў іску на падставе закону аб прыпыненьні падзелаў?

АДКАЗ. Выпадкі, калі аддаецца назад істцу ўнесеная ім судовая пошліна, дакладна пералічаны ў арт. 18 інструкцыі аб парадку спагнаньня судовай пошліны зямельнымі камісіямі (Бюл. СНК № 7 за 1926 г., стар. 29). Калі будзе адмоўлена ў іску аб падзеле гаспадаркі, то судовая пошліна не павінна аддавацца назад істцу.

ПЫТАНЬНЕ 11. Ці можа акруговая зямельная камісія пакінуць неразгледжанаю скаргу на рашэньне раённае зямельнае камісіі, калі апошняя гэтую скаргу падала без аплаты яе судоваю пошлінаю?

АДКАЗ. Па аналёгіі з арт. 60 інструкцыі аб парадку разгляду спраў зямельнымі камісіямі, раённая зямельная камісія, атрымаўшы на сваю пастанову скаргу, па якой ня была ўнесена судовая пошліна, павінна была гэтую скаргу пакінуць неразгледжанаю, абвясьціць старану аб унясеньні ёю на працягу сямі дзён пошліны і аддаць яе скаргу назад у выпадку неўнясеньня пошліны ў вызначны тэрмін. Калі-ж раённая зямельная камісія падала ў акруговую зямельную камісію справу разам са скаргай, па якой ня была ўнесена судовая пошліна, то акруговая зямельная камісія павінна вярнуць усё справавядзеньне ў раённую камісію для выкананьня ёю арт. 60 інструкцыі.

ПЫТАНЬНЕ 12. Ці трэба па справах аб абрэзцы, якая зроблена ў парадку земляўпарадкаваньня, пісаць пастанову ў канчатковай форме на падставе арт. 179 Зям. Код.

АДКАЗ. Дзяржаўны запіс землякарыстаньняў, складзеных у парадку земляўпарадкаваньня, і выдача насяленьню дакумэнтаў прарводзіцца на падставе данных, запісаных ў пастанове акруговай зямельнай камісіі аб канчатковым зацьвярджэньні выкананага праэкту земляўпарадкаваньня. З гэтае прычыны на падставе арт. 173 Зям. Код. і тлумачэньня 6 па журналу № 10 распарадчага паседжаньня Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю за 6 ліпеня 1926 г. (Бюл. СНК № 10, стар. 58, пыт. 87) усякая скончаная земляўпарадчая справа афармляецца ў парадку, прадугледжаным арт. 173 Зям. Код.

ПЫТАНЬНЕ 13. Калі падрыхтоўка па земляўпарадчай справе зьяўляецца бясспрэчнай, то ці патрэбна зацьверджаньне яе зямельнымі камісіямі?

АДКАЗ. Папярэднія праэкты земляўпарадкаваньня, складзеныя на падставе арт. 167 Зям. Код. у час падрыхтоўкі земляўпарадчых спраў, не зацьвярджаюцца зямельнымі камісіямі. Зацьверджаньне апошнімі земляўпарадчай падрыхтоўкі было-б немэтазгодным, бо пазбаўляла-б земляўпарадчыка магчымасьці зьмяняць дапушчэньне дакладу падрыхтоўкі ў час выкананьня земляўпарадчага праэкту, што шмат калі зьяўляецца неабходным. З гэтае прычыны ў працэсе земляўпарадчай падрыхтоўкі зямельныя камісіі па няспрэчных справах бяруць удзел у праверцы гаспадарчай мэтазгоднасьці і праўных пытаньняў складзенага праэкту, а па спрэчных справах—у вырашэньні, апроч таго, узьнікшых спрэчак і скарг.

ПЫТАНЬНЕ 14. Ці можа раённая зямельная камісія, разглядаючая ў адкрытым судовым пасяджэньні няспрэчную земляўпарадчую справу, вырашаць па сутнасьці упяршыню пры гэтым заяўленыя старанамі скаргі.

АДКАЗ. Спрэчкі і скаргі, заяўленыя старанамі пасьля двух тыдняў ад дня паказаньня праэкту, на моцы ўвагі да арт. 179 Зям. Код., ня прымаюцца да разгляду зямельнаю камісіяю. Зямельная Камісія аднак ня толькі па спрэчных, але і па няспрэчных земляўпарадчых праэктах, павінна сама праверыць іх з праўнага гаспадарчага і тэхнічнага боку на падставе арт. 170 і ўвагі 2 да арт. 199 Зям. Код.

Адказы на пытаньні 7—14 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры НКЗ БССР (журнал распарадчага паседжаньня АКВК за 15 сьнежня 1926 г. № 21.

Запытаньне Запольскага сельскага савету Рагачоўскага раёну Бабруйскае акругі за 4 сьнежня 1926 г. № 1192:

ПЫТАНЬНЕ **15**. У Бюлетэні СНК за 1 сьнежня 1926 г. № 15(24) у неафіцыйнай частцы, у арт. „Аб льготах сялянству па земляўпарадкаваньні і перасяленьні“ сказана: „Калі пераход перасяленца на новае месца патрабуе толькі пабудаваньня будынкаў на новым месцы і не патрабуе правядзеньня на ім мэліарацыі, падняцьця цаліны і дазваляе пакінуць гаспадарку пры звычайных спосабах землякарыстаньня, то перасяленцы звальняюцца ад сельска-гаспадарчага падатку тэрмінам на 1 год з моманту пераходу на землякарыстаньне на новым месцы“.

А як быць тым гаспадаркам, якія ў парадку земляўпарадкаваньня атрымалі сабе зямлю з запаснага фонду, з быўшае памешчыцкае і прыступілі поўнасьцю да карыстаньня ёю з 1924 і 1925 г.? Пазбаўленьня ад сельска-гаспадарчага падатку на 1 год ім ня дадзена, у той час, як ім трэба было на новым месцы будаваць будынкі. Ці маюць яны права скарыстаць паказаную вышэй льготу?

АДКАЗ. Ня маюць права, бо пастанова аб льготах па земляўпарадкаваньні і перасяленьні, вынесеная ЦВК і СНК СССР 10 верасьня 1926 г., аб якой тлумачыцца ў паказаным у пытаньні артыкуле, не гаворыць аб тым, што памянутыя льготы пашыраюцца на прайшоўшы час. А калі гэта асобна не агаворана, то трэба разумець, што гэты закон не пашыраецца на гаспадркі перайшоўшыя на новыя месцы ў парадку земляўпарадкаваньня ў 1924 і 1925 годзе.

---

## 9. Работа Раённых Рэвізійных Камісій.

Для ажыцьцяўленьня сапраўднага нагляду з боку шырокіх мас за выкананьнем раённых бюджэтаў у раёнах БССР пры мінулых перавыбарах Саветаў (люты—красавік 1926 г.) створаны Раённыя Рэвізійныя Камісіі.

Упаўне своечасна пастарацца даць хоць-бы агульную характарыстыку, як на справе ажыцьцяўляецца грамадзкі кантроль, у чым выявіліся сталыя і адмоўныя бакі работы Рэвізійных Камісій і які павінен быць яе далейшы напрамак.

Раней за ўсё трэба сказаць, што пад рэвізіяй выкананьня бюджэту разумеецца праверка, наколькі правільна, мэтазгодна і выгадна выдаткоўваць раённыя сродкі, у якой ступені задаволены пры гэтым патрэбы ўстаноў, наколькі поўна, своечасна і гаспадарча скарыстаны даходныя крыніцы і, наогул, ці правільна вядзецца раённая гаспадарка.

Матар'ялы, якія маюцца аб рабоце Рэвізійных Камісій, съведчаць, што ў асноўным яны правільна зразумелі пастаўленыя перад Раённымі Рэвізійнымі Камісіямі задачы і ў адпаведнасьці з гэтымі задачамі праводзілі рэвізіі.

Якавы галоўнейшыя недахваты ў выкананьні раённых бюджэтаў, адзначаемыя Рэвізійнымі Камісіямі.

Па прыбытках: 1) некаторыя даходныя крыніцы зусім ня ўзяты на вучот, напрыклад, дробныя вазёры і сады; выкарыстаньне іншых даходных крыніц робіцца нявыгадна; 2) частка безгаспадарчае маемасьці да цяперашняга часу не скарыстана і не рэалізавана; 3) адсутнасьць у Раённых Выканаўчых Камітэтаў вычэрпваючых зьвестак аб прадпрыемствах, якія здаюцца ў арэнду; невыстарчальны нагляд за выкананьнем арандатарамі ўмоў арэндных дагавораў; 4) няпрыняцьце належных мер да ліквідацыі рознага роду нядоімак, вынікам чаго зьяўлялася недапаступленьне даходаў, у параўнаньні з каштарысам і г. д.

Па выдатках: 1) пры камандыроўках членаў Раённага Выканаўчага Камітэту, хурманкі аплачваліся па павышанных проціў мясцовых цэнах; 2) адрамантаванае школьнае памяшканьне не скарыстоўваецца, а, замест яго, арандуецца другое памяшканьне, што выклікае зусім лішні выдатак; 3) за рахунак сродкаў на пабудаваньне пажарнага абозу, куплены значкі на шапкі пажарнікаў; 4) немэтазгодная і безгаспадарчая загатоўка фуражу для Раённага Выканаўчага Камітэту, агародзіны—для бальніцы; 5) немэтазгоднае выдаткаваньне сродкаў, адпушчаных на рамонт камунальных будынкаў, адсутнасьць дагавораў на правядзеньне рамонтных работ; 6) раздача бальнічнае маемасьці (ложкаў) у прыватнае карыстаньне і г. д.

У некаторых выпадках Рэвізійныя Камісіі яшчэ болей пашыралі сваю работу і, упоравень з увагамі чыста грашовага характару, уваходзілі ў ацэнку ўсяго гаспадарчага жыцьця і працаздольнасьці рэвізуемае ўстановы.

Так, Рэвізійная Камісія Чавускага раёну пры рэвізіі фэльчарскага пункту адзначыла перабоі ў яго рабоце з-за несваячаснага атрыманьня грашовых сродкаў з Раённага Выканаўчага Камітэту па віне Загадчыка пункту. У Ліозьненскім раёне Рэвізійная Камісія пры рэвізіі бальніцы ўстанавіла, што на харчаваньне хворых трацілася ў дзень па 22 кап., як гэта прадугледжана каштарысам, а $17^{1}/_{2}$ к.; затрымлівалася выдача грошай на бялізну і абутак для хворых; бялізна для хворых была зусім нягодная да ўжываньня, прычым, як дэзынфэкаваная, так і недэзынфэкаваная хавалася разам; мела месца кража бялізны; не ўстаноўлена вызначаных дзён наведваньня хворых, з прычыны чаго ў бальніцы заўсёды назіралася таўкатня. У рэвізійных актах некаторых Камісій Віцебскае акругі сустракаюцца паказаньні на тое, што машыны млыноў рэдка чысьцяцца, забой скаціны ў разьніцы робіцца без вэтэрынарнага агляду, што ня прымаецца мер да загатоўкі дроў, ня робіцца рамонту і інш.

Усе гэтыя прыклады характарызуюць станоўчы бок работы Рэвізійных Камісій. У гэтых выпадках Раённыя Рэвізійныя Камісіі выступаюць, сапраўды, як органы грамадзкага кантролю над вядзеньнем раённае гаспадаркі; у гэтых выпадках іх дзеяльнасьць вяла да адхіленьня хібаў у гаспадараньні Раённых Выканаўчых Камітэтаў, да палепшаньня пастаноўкі работы ва ўстановах і прадпрыемствах раёну і, як вынік, да падняцьця раённае гаспадаркі, наогул.

У некаторых раёнах Рэвізійныя Камісіі іначай зразумелі свае задачы. Уся рэвізія ў іх зводзілася выключна да праверкі правільнасьці напісаньня расьпісак, рахункаў і складаньня рахунковых запісаў. У рэвізійным акце адзначалі да 30 малаважных уваг, чыста фармальнага характару, па сутнасьці-ж выдаткаў ня было ні аднае ўвагі. У іншых выпадках проста падлічваўся і заносіўся ў акт лічбовы матар'ял аб зробленых за квартал выдатках і паступіўшых прыбытках; што-ж тычыцца таго, ці правільна і ці мэтазгодна рабіліся выдаткі, што паслужыла прычынай недапаступленьня або лішняга паступленьня прыбыткаў у параўнаньні з каштарысам, ці цалкам выяўлены даходныя крыніцы раёну і як яны скарыстоўваюцца—зусім не асьвятлялася.

Натуральна, што ад такой рэвізіі палепшаньняў у раённай гаспадарцы чакаць ня прыходзіцца дзеля таго, што ў такіх выпадках рэвізіі паддаюцца не гаспадарчыя апэрацыі, не вядзеньне гаспадаркі ў цэлым, а толькі паасобныя рахункі і расьпіскі і парадак правядзеньня рахунковых запісаў. Нечага гаварыць, што такая работа ня можа даць патрэбнага выніку. Рэвізія павінна рабіцца для атрыманьня яснага прадстаўленьня грашова-гаспадарчай дзеяльнасьці рэвізуемае ўстановы, аб ступені яе здавальняючасьці, недахватаў і інш., з мэтаю ўнясеньня ў яе неабходных палепшаньняў, а папяровыя дакумэнты—гэта толькі сродак да дасягненьня такога выніку. Шляхам ужываньня ў некаторых выпадках спосабу рэвізіі на вытрымку, а ня ўсіх дакумэнтаў усьцяж, Рэвізійныя Камісіі павінны дабіцца магчымасьці спыніць сваю ўвагу на ўсіх галоўных галінах раённае гаспадаркі, якія вызначаюць моцнасьць і эканамічны ўзровень раёну

Многія Рэвізійныя Камісіі зразумелі гэта, і, па магчымасьці, праводзілі ў жыцьцё. Зусім неабходна, каб іх досьлед не прапаў дарэмна. Тэрмін паўнамоцтваў Рэвізійных Камісій блізіцца к канцу; падходзіць перадвыбарчая кампанія. Раённым Рэвізійным Камісіям трэба пасьпяшацца з заканчэньнем рэвізіі раённых бюджэтаў 1925/1926 году, падвесьці вынікі свае работы, вынікі выкананьня раённага бюджэту

з пункту гледжаньня гаспадарчага і даць справаздачу гаспадару раёну—Раённаму Зьезду Саветаў.

На гэтых Зьездах Саветаў павінны быць падведзены вынікі першаму досьледу работы Раённых Рэвізійных Камісій і з наказам Зьезду пераданы нанова выбраным Раённым Рэвізійным Камісіям.

**Матус.**

---

## 10. Аб праве працоўнага землякарыстаньня і замацаваньні зямлі ў БССР.

Права працоўнага землякарыстаньня ў БССР ўстаноўлена было 17-га сьнежня 1920 году рэзалюцыяй Другога Ўсебеларускага Зьезду Саветаў па зямельнаму пытаньню, а зьмест гэтага права вызначан выданым 7-га верасьня 1922 году асноўным законам аб працоўным землякарыстаньні. У гэтым-жа законе гаворыцца і аб замацаваньні зямлі. Абодва гэтыя палажэньні паўтараюцца затым Зямельнымі Кодэксамі БССР, выданымі ў 1923 годзе і 1925 годзе.

### Вынікі рознага разуменьня гэтых двох палажэньняў.

Да цяперашняга часу сярод зямельных работнікаў, а тым болей насяленьня, не ўстанавілася аднастайнага разуменьня, у чым заключаецца сутнасьць права працоўнага землякарыстаньня, якія землі карыстаюцца аховай гэтага права, у чым заключаецца розьніца паміж прадастаўленьнем на праве працоўнага землякарыстаньня і замацаваньнем гэтага землякарыстаньня.

У навуковай літаратуры гэтыя пытаньні зусім не асьветлены, дзеля таго, што зямельнае права БССР, нажаль, да цяперашняга часу ня мае яшчэ сваіх дасьледавацеляў. Ведамственныя-ж растлумачэньні Народнага Камісарыяту Земляробства ня ставяць сваёй задачай тэарэтычную распрацоўку пытаньняў права. Паміж тым неаднолькавае разуменьне пастаўленых пытаньняў прыводзіць на практыцы да рознабою ў рабоце.

Некаторыя зямельныя работнікі да гэтага часу ня лічацца з замацаваньнем зямлі за зямельнымі грамадамі, існаваўшымі да часу выданьня асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні, і падроўніваюць іх землякарыстаньне, у асаблівасьці, пры ўключэньні ўдоб'яў некалькіх зямельных грамад у часе земляўпарадкаваньня ў адну дачу разьмеркаваньня. Другія—прадпужаюць лічыць запасным фондам быўшыя непрацоўныя землі сельска-гаспадарчага прызначэньня, паступіўшыя ў пэрыяд рэвалюцыі ў працоўнае карыстаньне сялян, а таму забіраюць з іх карыстаньня гэтыя землі для арганізацыі на іх пасёлкаў і калектываў, дапрысяляюць грамадзян з боку ў склад зямельных грамад, узьнікшых на быўшых непрацоўных землях, робяць перарасьмеркаваньне гэтых зямель ў мэтах падраўненьня да мінімальнай нормы і паддаюць іх земляўпарадкаваньню ў абавязковым парадку без належных падстаў.

Усё гэта падрывае устойнасьць працоўнага землякарыстаньня, неабходную для падняцьця сельскае гаспадаркі, выклікае масу скарг і ствярае валакіту ў правядзеньні зямельных спраў.

### Сутнасьць права працоўнага землякарыстаньня.

З маючыхся ў рэспубліцы зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня каля 90 проц. дадзена насяленьню на праве працоўнага

землякарыстаньня і толькі каля 10 проц. знаходзіцца ў складзе дзяржаўных зямельных маемасьцяй.

Сутнасьць права працоўнага землякарыстаньня ўточнена Зямельным Кодэксам.

Гэтае права зьяўляецца бестэрміновым, але ўмоўным. Дзяржава дае грамадзяніну ў бестэрміновае карыстаньне зямлю пад умоваю рацыянальнага вядзеньня на ёй сельскае гаспадаркі сваею працаю ў межах установленай нормы землякарыстаньня.

Пазбаўленьне зямлі, дадзенай ў працоўнае карыстаньне, робіцца ня іначай, як на падставах, паказаных у законе.

Калі землякарыстальнік будзе весьці на зямлі драпежніцкую высіляючую зямлю гаспадарку, або пакіне яе зусім без выкарыстаньня, то ён пазбаўляецца гэтай зямлі з прычыны невыкананьня ім умоў, на якіх зямля дадзена яму дзяржаваю ў бестэрміновае карыстаньне.

Роўным чынам, адбіраецца зямля, калі гаспадарка губіць свой працоўны лад, напрыклад, калі ўсе работы ў гаспадарцы будуць выконвацца выключна парабкамі, а сам землякарыстальнік і члены яго сям'і ня стануць прымаць ніякага ўдзелу ў сельска-гаспадарчых работах. Такая гаспадарка вырадзіцца ў непрацоўную, недапушчаемую законам.

Зямля можа быць адабрана і ў тым выпадку, калі землякарыстальнік без належнага дазволу аддае зямлю ў арэнду у мэтах выдабываньня з яе непрацоўнага даходу. Арэнда зямлі дапушчаецца толькі ў паказаных у законе выпадках, як сродак прыйсьці на дапамогу часова заняпаўшай сялянскай гаспадарцы, якая зьбіраецца ў далейшым весьці яе ўласнымі сіламі.

Адбіраецца зямля таксама і тагды, калі землякарыстальнік, забыўшы, што зямля складае дзяржаўную ўласнасьць, стане яе прадаваць, даравань, закладваць, словам, рабіць на яе незаконныя зьдзелкі.

Колькасьць зямлі, на якой можна рацыянальна весьці працоўную сельскую гаспадарку, вызначаецца нормамі землякарыстаньня. Калі ў гаспадарцы маецца зямлі звыш максімальнай нормы, то лішкі адбіраюцца ад гаспадарак у парадку земляўпарадкаваньня.

Нарэшце, з працоўнага землякарыстаньня можа быць забрана зямля, калі яна неабходна для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб. У гэтым выпадку землякарыстальнік атрымлівае зямлю ў другім месцы з адплатаю зробленага яму ўшчэрбку.

Усякае забраньне зямлі, якая знаходзіцца ў працоўным карыстаньні, робіцца ня толькі на падставах, паказаных у законе, але і ў вызначаным парадку, а іменна—ў парадку земляўпарадкаваньня—для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб, пры ўнытрыпасельным земляўпарадкаваньні і абрэзцы, ва ўсіх-жа іншых выпадках зямля адбіраецца шляхам прад'яўленьня зямельным органам іску да землякарыстальніка ў зямельнай камісіі, г.-ё. у парадку вырашэньня спрэчных зямельных спраў.

## Сутнасьць замацаваньня зямлі.

Па сэнсу арт. 124 Зямельнага Кодэксу за зямельнымі грамадамі замацавана фактычнае землякарыстаньне, існаваўшае да дня выданьня асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні, а за паасобнымі дварамі замацоўваецца тая колькасьць зямлі, якая акажацца ў іх карыстаньні да часу выдачы ім дакумэнтаў. Такім чынам, замацаваньне адносіцца толькі да колькасьці зямлі, а мамэнты замацаваньня

розныя для зямельных грамад і паасобных двароў. Прычыны гэтага адрозьненьня становяцца яснымі пры супастаўленьні арт. 124 Зямельнага Кодэксу з яе першакрыніцамі.

Цыціруемы артыкул паўтарае зьмест арт. 31 асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні і арт. 125 Зямельнага Код. выданьня 1923 г. Асн. Закон (арт. 6), а за тым і Зям. Код. (арт. 196) устанаўлялі гранічныя нормы для працоўнага землякарыстаньня, выпрацоўка якіх была ускладзена на Народны Камісарыят Земляробства. Пад час выданьня паказаных законаў у 1922—1923 г. г. разьмеры норм ня былі яшчэ ўстаноўлены. Пагэтаму нельга было замацаваць за паасобнымі працоўнымі дварамі іх фактычнае землякарыстаньне ў вызначаных нормах. Спачатку яно ў кожным паасобным выпадку правяралася шляхам абрэзкі і земляўпарадкаваньня. У выніку гэтай праверкі выдаваліся дакумэнты дваром, землякарыстаньне якіх ажыцьцяўлялася ў межах устаноўленай для даннага двара працоўнай нормы, г. е. колькасьць зямлі, каторую двор мог апрацаваць сваімі сіламі без ужываньня сталае наёмнае працы (па асноўнаму закону). Колькасьць зямлі, паказаная ў выданым дакумэнце, замацоўвалася ў сталае працоўнае карыстаньне.

З часу выданьня 15-га красавіка 1923 году Зямельнага Кодэксу працоўная земляробчая гаспадарка набыла права карыстацца падсобнаю наёмнаю працаю ня толькі сэзоннаю, але і сталаю. Дзякуючы гэтаму адпаў ранейшы мэтад для вызначэньня нормы працоўнага землякарыстаньня, а так званыя паўпрацоўныя гаспадаркі сталі працоўнымі.

У 1924 г. (цыркуляр за 12-га ліпеня № 29) Народным Камісарыятам Земляробства выпрацаваны для старай Меншчыны разьмеры гранічных норм працоўнага землякарыстаньня —мінімальнай для надзяленьня і максімальнай для забраньня лішкаў. Гэтыя нормы з нязначнымі зьменамі цыркулярам за 4-га красавіка 1925 г. № 17 распаўсюджаны па ўсю ўзбуйненую БССР. З гэтага часу выдача дакумэнтаў для замацаваньня зямлі страціла сваё ранейшае значэньне. Цяпер зьяўляецца замацаваным у сваіх разьмерах землякарыстаньне, ажыцьцяўляемае ў межах устаноўленых норм, а таксама землякарыстаньне, упарадкаванае ў парадку савецкага земляўпарадкаваньня.

Землякарыстаньне, ня маючае мінімальнай нормы, не замацавана, дзеля таго, што яно падлягае данадзяленьню. Роўным чынам не замацавана землякарыстаньне працоўнае гаспадаркі, маючае зямлю звыш максімальнай нормы, дзеля таго, што лішкі ў парадку земляўпарадкаваньня ў яе падлягаюць забраньню.

Усё сказанае тычыцца зямель, прызначаных да разьмеркаваньня ў працоўнае карыстаньне і законна дадзеных зямельнымі органамі на падставе пастаноў Зьездаў Саветаў. Дзеля таго, каб высьветліць, якія землі знаходзяцца ў законамерным карыстаньні і падлягаюць у вызначным разьмеры замацаваньню, неабходна ўстанавіць працяжнасьць карыстаньня і спосаб атрыманьня зямлі працоўнаю гаспадаркаю.

## Якія землі замацаваны ў працоўнае карыстаньне.

У старой Меншчыне рэзалюцыя Другога Ўсебеларускага Зьезду Саветаў за 17-га сьнежня 1920 году па зямельнаму пытаньню дала правы працоўнага землякарыстаньня ўсім існаваўшым к таму тэрміну сялянскім гаспадаркам, і, наогул, працоўным земляробам па-за

залежнасьцію ад тых або іншых падстаў іх землякарыстаньня. Працоўнаю гаспадаркаю Зьезд прызнаў такую, якая вядзецца самім землякарыстальнікам без ужываньня сталае наёмнае працы. Пагэтаму ўсякае сялянскага тыпу землякарыстаньне, фактычна існуючае ў старой Меншчыне з часу прыняцьця Другім Усебеларускім Зьездам Саветаў рэзалюцыі па зямельнаму пытаньню (17-га сьнежня 1920 году), зьяўляецца працоўным, па якіх-бы падставах да гэтага тэрміну не паступіла зямля ў яго карыстаньне—надзяленьне, купля, арэнда, нават захват і інш., а ў сваіх разьмерах яно зьяўляецца замацаваным, калі ажыцьцяўляецца ў межах ўстаноўленых норм. Што-ж тычыцца землякарыстаньняў, узьнікшых пасьля 17-га сьнежня 1920 году, то яны маюць права працоўнага землякарыстаньня ў тым выпадку, калі ім зямля дадзена законна зямельнымі органамі з складу зямельнага фонду. Асобы-ж, яўным парадкам асвоіўшыя пасьля гэтага тэрміну дзяржаўную зямлю, ня маюць у адносінах да яе праў працоўнага землякарыстаньня, а знаходзячаяся ў іх зямля прадаўжае заставацца дзяржаўнаю.

Ітак, у старой Меншчыне ўсе існуючыя з часу прыняцьця Другім Усебеларускім Зьездам Саветаў рэзалюцыі па зямельнаму пытаньню паасобныя гаспадаркі зьяўляюцца працоўнымі. Калі землякарыстаньне іх ажыцьцяўляецца ў межах устаноўленых норм (паміж мінімальнай і максімальнай), яно зьяўляецца замацаваным у сваіх разьмерах. Нарэшце, гаспадаркі, узьнікшыя пасьля 17-га сьнежня 1920 году, карыстаюцца правамі працоўнага землякарыстаньня, калі яны атрымалі зямлю ад зямельных органаў, прычым у тым выпадку, калі гэта надзяленьне зроблена ў парадку земляўпарадкаваньня, то земляўпарадкаваньне іх замацавана за імі па-за залежнасьцю ад яго разьмераў на падставе п. 5 пастановы Савету Народных Камісараў за 6-га чэрвеня 1925 году аб парадку прыстасаваньня норм працоўнага землякарыстаньня. Такім чынам трэба адрозьніваць землі працоўнага карыстаньня, разьмеры якіх могуць быць зьменены ў парадку земляўпарадкаваньня, і гаспадаркі, замацаваныя ў сваіх разьмерах, земляўпарадкаваньне якіх робіцца па іх фактычнаму землякарыстаньню.

**А. Вішнеўскі.**

---

## 11. Да пытаньня аб рэарганізацыі Часьцей па культурна-асьветных справах пры Раённых Выканаўчых Камітэтах.

(*У парадку абмеркаваньня*).

У сучасны момант на старонках друку абмяркоўваецца пытаньне аб рэарганізацыі Часьцей па культурна-асьветных справах пры раённых выканаўчых камітэтах. У паасобку яно закранута ў Бюлетэні СНК БССР за 25 сьнежня 1926 г. у № 16 (25) тав. Лодысевым. Закранутае пытаньне надта жыцьцёва, выклікаецца жыцьцём школы, прынцыпова правільна і патрабуе дзелавога практычнага вырашэньня. Наколькі пытаньне высунута ў парадку абмеркаваньня, мы хочам таксама дабавіць некалькі практычных прапаноў, якія абмяркоўваліся ў некаторай меры і ў Чавускім Раённым Выканаўчым Камітэце і сярод настаўніцтва раёну.

І сапраўды, жыцьцё хуткім крокам ідзе ўперад і высоўвае шмат запатрабаваньняў да школы ў галінах кіраваньня вучэбна-выхаваўчай і пастаноўкі мэтадычнай працы школы. Да гэтага часу

школа, як вучэбна-выхаваўчая ўстанова, не кіравалася ў патрэбнай меры існуючымі ўстановамі народнае асьветы (часьці па культурна-асьветных справах, акруговыя аддзелы народнае асьветы) і не магла яго мець таму, што існуючыя часьці па культурна-асьветных справах з загадчыкамі-адміністратарамі не маглі гэтага даць. Калі браць наогул усе часьці па культурна-асьветных справах пры раённых выканаўчых камітэтах і ў паасобку—нашу Чавускую, дык бачым, што загадчыкі часьцей па культурна-асьветных справах кіруюць толькі гаспадарчымі справамі школ і часта зусім ня ведаюць пэдагагічнае працы наогул. Бязумоўна, кіраваньне вучэбна-выхаваўчай працай гэтымі часьцямі школе чакаць няма чаго і працуе яна так, як здолее сам настаўнік.

Гаварыць аб патрэбе рэарганізацыі цяперашніх часьцей па культурна-асьветных справах доўга не даводзіцца: пытаньне зразумелае, яно высунута практыкай і сваячасна пастаўлена на абмеркаваньне.

Мы лічым, што рэарганізацыю трэба зрабіць у хуткім часе і замест загадчыка-адміністратара даць інспэктара і памочніка яму. Першы павінен будзе кіраваць вучэбна-выхаваўчай працай школ, а на яго памочніка ўскласьці гаспадарчую часьць школ і культурна-асьветную працу раёну.

Добрую думку выказвае тав. Лодысеў у адносінах да акруговых інспэктароў народнае асьветы, калі кажа аб іх скарачэньні. Бязумоўна, кіраваньня акруговага інспэктара школа ня бачыць на працягу некалькіх год. Чавускі раён у 1925/26 навучальным годзе, здаецца, ня бачыў інспэктара акруговага аддзелу народнае асьветы і ня ўпэўнен у тым, што інспэктар гэты абсьледуе ўсе школы ў гэтым годзе.

У сваю чаргу аўтару ня трэба перагінаць палкі ў адносінах да ліквідацыі аддзелаў акруговых выканаўчых камітэтаў, у паасобку—акруговага аддзелу народнае асьветы. Лічым, што ліквідацыя гэтых аддзелаў цяпер немагчыма. Трэба падыходзіць да вырашэньня гэтага пытаньня паступова, скарачаючы некаторыя пададдзелы, пераносячы іх працу ў раён і такім чынам само жыцьцё зьліквідуе непатрэбныя аддзелы. Пытаньне надта сур'ёзнае і патрабуе выстарчальнага абмеркаваньня ў напрамку яго практычнага вырашэньня.

**Я. Збуржынскі.**
**А. Прохараў.**

6 студзеня 1927 г.
г. Чавусы, РВК.

---

## 12. Як праходзіць на мясцох пытаньне адносна рэарганізацыі культурна-асьветных Часьцей Раёных Выканаўчых Камітэтаў.

*(У парадку абмеркаваньня).*

Праэкт пастановы Савету Народных Камісараў БССР аб рэарганізацыі часьцей па культурна-асьветных справах пры раённых выканаўчых камітэтах у раённую інспэктуру выклікаў у Магілёўскай акрузе цэлы шэраг пасяджэньняў, на якіх гэтае пытаньне разглядалася і абмяркоўвалася з усіх бакоў. Што рэарганізацыя патрэбна і што яе трэба зрабіць як найхутчэй, з гэтым згадзіліся прэзыдыумы усіх раёнаў, але пытаньне, якім чынам павінна прайсьці рэарганізацыя, каб захаваць яе каштоўнасьць для раёнаў і каб не парушыць прынцыпу „рэжыму эканоміі“, узьняло шмат спрэчак, высунула не-

калькі разнастайных поглядаў і прапанаў, але ня гледзячы на ўсю рознастайнасьць гэтыя прапановы можна падзяліць на 3 групы:

1) у дадатак да часьці па культурна-асьветных справах устанавіць аднаго інспэктара на два раёны;

2) дадаць да часьці па культурна-асьветных справах у больш. буйных раёнах аднаго інспэктара на раён, а на два дробных раёны таксама аднаго інспэктара;

3) дадаць да часьці па культурна-асьветных справах у кожны раён па аднаму інспэктару.

З гэтых прапаноў можна бачыць, што ўся рэарганізацыя абмяжоўваецца „дадаткам да часьці па культурна-асьветных справах“, а каб магчыма было ўтрымаць гэты „дадатак“, тав. Лодысеў у сваім артыкуле (Бюлетэнь СНК за 25 сьнежня 1926 г. № 16 (25) дае рэцэпт—„скасаваць аддзелы акруговах выканаўчых камітэтаў, і такім чынам атрымаем вядомую суму свабоднага бюджэту, за кошт якога можна будзе даць па аднаму інспэктару на кожны раён. Апрача гэтага, дзяржава будзе мець некалькі дзесяткаў тысяч рублёў экономіі“. Калі-ж скасаваць цалкам акруговыя выканаўчыя камітэты, тагды яшчэ больш будзе „свабоднага бюджэту“, але тав. Лодысеў не разьлічыў, што такая рэформа зробіць з раёнаў акругі і „свабоднага бюджэту“ ня хопіць.

Невядома чаму тав. Лодысеў абурыўся ў першую чаргу на акруговыя аддзелы народнае асьветы. Калі толькі таму, што ён ня бачыць „істотнае рэальнасьці“ і калі яму здаецца, што ўся праца акруговага аддзелу народнае асьветы „зьмяшчаецца ў рассылцы копій цыркуляраў Камісарыяту Асьветы“, дык трэба адказаць, што тав. Лодысеў зусім ня ведае зьместу працы акруговага аддзелу народнае асьветы, і яго думка, што „ліквідацыю некаторых аддзелаў акруговага выканаўчага камітэту, а ў першую чаргу—аддзелаў асьветы, можна пачаць бяз болю ў гэтым годзе“, ня мае пад сабой належнага грунту.

Каб толькі знайсьці „вядомую суму свабоднага бюджэту“ на ўтрыманьне аднаго інспэктара на раён, тав. Лодысеў для скасаваньня аддзелу асьветы не толькі выносіць на старонкі друку памылковы погляд на працу апошняга, але абвінавачвае ў бязьдзейнасьці і бескарысным „для раёну“ існаваньні акруговую інспэктуру народнае асьветы: „выпадкова раз у год выедзе інспэктар аддзелу народнае асьветы на раён, ён павернецца ў трох—чатырох школах і зноў едзе ў акругу“.

Ці вядома Вам, тав. Лодысеў, што вучастковы інспэктар народнае асьветы мае ў вучастку тры-чатыры раёны, ці каля 200 асьветных устаноў, абсьледаваць якія няма ніякай фізычнай магчымасьці. Плян працы вучастковага інспэктара прадугледжвае абсьледаваньне на працягу вучэбнага году ня менш 50 проц., ці каля 100 установаў вучастку, але і на гэта патрэбна ня менш 120-180 дзён, а калі дадаць яшчэ дзён 20—30, якія трэба аддаць на працягу году на правядзеньне агульных настаўніцкіх раённых сходаў, то відаць, якімі „выпадковымі“ зьяўляюцца выезды інспэктара. Мусіць т. Лодысеў не прадбачыў і не заўважыў, што выезд на раён робіцца ў плянавым парадку і ў кожным раёне абсьледуецца ня 3—4 школы, а 30—40 школ, што апроч індывідуальнага інструктаваньня мэтадычныя пытаньні інспэктароў пры кожным выезьдзе выносяцца на абмеркаваньне агульных раённых настаўніцкіх канфэрэнцый, якія таксама праводзяцца ў плянавым парадку. Мусіць для лёгкасьці стылю, унесены т. Лодысевым у арт. „выпадковыя выезды і павёртваньне ў 3—4 школах“. Што-ж тычыцца таго, што т. Лодысеў ня ведае, „ці

адпавядаюць свайму прызначэньню настаўнікі“, дык трэба давесьці да яго ведама, што кандыдаты на настаўніцкія пасады вылучаюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі, якія, з пэўнасьцю можна сказаць, ведаюць, каго вылучаюць.

Погляд т. Лодысева на рэарганізацыю часьцей па культурна-асьветных справах пры раённых выканаўчых камітэтах не дае нічога новага да існуючых на гэтую справу поглядаў, апроч некаторай блытаніны ў сэнсе адшуканьня сродкаў, і каб рэарганізацыя сапраўды была рэарганізацыяю, а не „дадаткам“ да існуючых часьцей па культурна-асьветных справах, трэба лічыць канечна патрэбным замяніць загадчыкаў часьцей па культурна-асьветных справах раённымі інспэктарамі, якія-б зьяўляліся адначасна членамі раённага выканаўчага камітэту. Ведомая рэч, што зьмена назвы „загадчык часьці па культурна-асьветных справах“ на „раённага інспэктара“ не дасягне мэты, калі гэты „інспэктар“ будзе завалены справамі ў раённым выканаўчым камітэце, як цяперашні „загадчык“, і калі ён ня будзе спэцыялістым пэдагогам, добра знаёмым з запатрабаваньнямі сучаснае школы. Вось чаму трэба зьняць з раённага інспэктара ўсе абавязкі ў раённым выканаўчым камітэце за выняткам выкананьня арганізацыйна-выхаваўчай працы ў раёне.

**Янка Моцны.**

---

## 13. Да артыкулу „Ці патрэбна рэарганізацыя Часьцей па культурна-асьветных справах Раённых Выканаўчых Камітэтаў“.

(*У парадку абмеркаваньня*).

Магілёўскі Раённы Выканаўчы Камітэт на сваім пасяджэньні разглядаў праэкт рэарганізацыі часьцей па культурна-асьветных справах. Пытаньне абгаварвалася досыць сурьёзна, з прыняцьцем пад увагу ўсіх момантаў, якія можа даць урэшце рэарганізацыя паводле праэкту. У асноўным тыя-ж погляды, што і ў Шклоўскага Раённага Выканаўчага Камітэту, але пастанова ў сэнсе ўстанаўленьня Раённай Інспэктуры—іншая. Праў тав. Лодысеў, калі ён кажа: „Устанаўляць міжраённую Інспэктуру немэтазгодна“. Вядома, ад гэтага мала будзе карысьці і справа асьветы ў раёне не атрымае сталага кіраваньня. Чаму немагчыма рэарганізацыя паводле праэкту? Тут мне хочацца дадаць да довадаў тав. Лодысева наступнае. Калі мы паставім, напрыклад, пытаньне так: якую ролю адыгрывае ў справах асьветы гаспадарчая частка? і адкажам, што гэта праца займае таксама значнае месца, тагды вынікае пытаньне, што член раённага выканаўчага камітэту, на якога, між іншым, будуць ускладзены гэтыя абавязкі, з гэтым ня справіцца. Ну, а калі яшчэ дадаць да гэтага новае будаўніцтва, якое, бязумоўна, з кожным годам будзе пашырацца,—гэты аргумэнт за што гаворыць? А ён гаворыць аб тым, што мы павінны прызнаць, што як культурна-навуковая, так і гаспадарча-будаўнічая праца патрабуюць досыць сталага і непасрэднага кіраваньня. А такім кіраўніком і павінен быць загадчык часткі па культурна-асьветных справах.

Цяпер некалькі слоў аб скарачэньні і ліквідацыі акруговых аддзелаў. Я памятую артыкул тав. Збуржынскага ў Бюлетэні СНК БССР № 13 (22), у якім ён шчыра прапануе скасаваць Акруговы Камітэт Узаемадапамогі. Гэта вельмі добра, але не Амэрыка, і пытаньне ставіцца позна. Пэўна, што гэта можна было-б зрабіць і ра-

ней. Значыць, аб тых мерапрыемствах, якія можна правесьці ў жыцьцё па спрашчэньню штатаў, скарачэньню апаратаў, прыстасаваньню апарату да насяленьня і зьберажэньню сродкаў,—гэтыя пытаньні неабходна ставіць своечасова. Скажам, напрыклад, Акруговы Аддзел Народнае Асьветы; яго праца ў адносінах да раёнаў у большасьці заключаецца ў тым, што ён узгадняе пытаньні аб прызначэньні настаўнікаў, або ў разьмеркаваньні сродкаў, якія Дзяржава дае на патрэбы народнае асьветы. Часам пытаньне аб сродках ім не разглядаецца, а вырашаецца Прэзыдумам Акруговага Выканаўчага Камітэту.

З вышэйсказанага вынікае, што нічога няма страшнага, калі Акруговы Аддзел Народнае Асьветы скараціць і нават ліквідаваць, пакінуўшы адпаведны штат для абслугоўваньня гораду, а за гэты рахунак устанавіць Раённую Інспэктуру. Далей, трэба паставіць пытаньне ў парадку абмеркаваньня і наконт таго, ці мэтазгодна пакінуць і ў далейшым так, як існуе ў сучасны момант, Акруговы Зямельны Аддзел. Усім вядома, што рост нашай гаспадаркі, рост культурнага ўзроўню насяленьня і наогул жыцьцёвыя патрэбы выклікаюць тую неабходнасьць, каб усе навуковыя і тэхнічныя сілы згрупаваць ў раёне. Трэба і пайсьці па шляху зьнішчэньня тае блытаніны, якая маецца ў раённых цэнтрах паміж установаў. Трэба дабіцца ўрэшце таго, каб установы мелі шчыльную сувязь у працы і лепш рацыянальна, спрошчана абслугоўвалі насяленьне.

Вынікі з усяго вышэйсказанага наступныя:

1. Пакінуць Часткі па культурна-асьветных справах у такім стане, у якім яны і былі да гэтага часу з загадчыкам на чале, дабавіўшы 1 раённага інспэктара.

2. Акруговы Аддзел Народнае Асьветы ліквідаваць, пакінуўшы адпаведны штат пры Гарадзкім Савеце.

3. Заняцца пытаньнем арганізацыі ўзору аб'яднаньня раённых установаў з мэтаю лепшага абслугоўваньня сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, гэта значыць, увязаць працу паміж галінамі: зямельнай, лясной, агранамічнай, пазычковай і інш.

4. Заняцца пытаньнем рэарганізацыі Акруговага Зямельнага Аддзелу па лініі перадачы ў раёны абслугоўваючага пэрсаналю.

**Тузаў.**

31 сьнежня 1926 г.
г. Магілёў, РВК.

---

## 14. Ці патрэбен дазвол Сельскага Савету для таго, каб увайсьці ў члены двара ў якасьці прымака.

Каля 7 год таму назад Паўліна Альхіменка праз шлюб увайшла з сваёю дачкою Віктай у якасьці паўнапраўнага члена ў двор Сьцяпана Альхіменкі. У апошняга ёсьць ад першага шлюбу сын Язэп, якому ўжо 15 год.

Пасьля сьмерці мужа Паўліна Альхіменка прыняла на гаспадарку да свае дачкі прымака Чупрына і дастала на гэта дазвол ад сельскага савету. Але Язэп Альхіменка пачаў супярэчыць залічэньню Чупрына ў склад двара і падаў адносна гэтага іск у зямельную камісію.

Раённая зямельная камісія задаволіла іск Язэпа Альхіменкі і не прызнала Чупрына прымаком і членам двара Альхіменкаў на тэй падставе, што іьсцец можа сам весьці гаспадарку і едзе яе з часу

хваробы памёршага бацькі, што цяпер існуюць спрэчкі паміж ім і Чупрыным і давядуць да зьнішчэньня гаспадаркі, што шлюб Чупрына з дачкою Паўліны Альхіменка—Віктай быў зарэгістраваны да падачы імі заявы ў сельскі савет аб прыняцьці Чупрына на гаспадарку Альхіменкаў і што прыняцьце яго ў якасьці прымака для гаспадаркі непатрэбна.

Акруговая Зямельная Камісія зацьвердзіла гэтую пастанову і запрапанавала ўтварыць апеку над Язэпам Альхіменкам, знайшоўшы, што хоць пастанова Раённай Зямельнай Камісіі не адпавядае вымаганьню арт. 64 Зямельнага Кодэксу, але адпавядае жыцьцёвай мэтазгоднасьці і няпісанаму праву.

Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю пры Народным Камісарыяце Земляробства, разгледзеўшы справу 30 лістапада 1926 г. скасавала пастанову Акруговай Зямельнай Камісіі і справавядзеньне спыніла па наступных прычынах:

1) праз шлюб Чупрын увайшоў у двор гаспадаркі Альхіменкаў, гаспадаром якой пасьля сьмерці Сьцяпана Альхіменка натуральна зьяўляецца ўдава Паўліна Альхіменка, а не непаўналетні Язэп Альхіменка, пры гэтым Паўліна Альхіменка ня была пазбаўлена права пяршынства ў двары ў парадку арт. 67 Зямельнага Кодэксу;

2) паводле вымаганьня арт. 68 Зямельнага Кодэксу апека можа быць назначана толькі ў тым выпадку, калі ў складзе двара застаюцца адны непаўналетнія, чаго ў даным двары ня было;

3) павялічэньне складу двара праз прымацтва належыць да выпадкаў натуральнай зьмены складу двара, для якой зьмены ніякага дазволу ўлады ня трэба, і такім чынам Чупрын, увайшоўшы ў двор гаспадаркі Альхіменкаў праз шлюб, зрабіўся паводле арт. 64 Зямельнага Кодэксу паўнапраўным членам іх двара, пры гэтым арт. 70 Зямельнага Кодэксу тлумачыць толькі аб патрэбе рэгістрацыі двара і ўсякай яго зьмены, а не аб тым, што павялічэньне двара патрабуе папярэдняга дазволу ад сельскага савету. Для праў Чупрына, як члена двара Альхіменкаў, гэты дазвол ня можа мець ніякага значэньня;

4) спасыланьне Акруговай Зямельнай Камісіі ў матывах свае пастановы на адпаведнасьць пастановы Раённай Зямельнай Камісіі мэтазгоднасьці і натуральнаму няпісанаму праву зьяўляецца беспадстаўным, ня маючым законных падстаў і парушаючым вымаганьне арт. 3-га Гр.-Працэс. Кодэксу і арт. 1-га Інструкцыі Зямельным Камісіям, а таксама асноўныя прынцыпы рэвалюцыйнай законнасьці;

5) Акруговая Зямельная Камісія, наперакор вымаганьням арт. 20 Гр.-Прац. Кодэксу, арт. 7 Грамадзянскага Кодэксу і арт. 151 Інструкцыі Зямельным Камісіям, парушыла элемэнтарныя вымаганьні працэсу, разгледзеўшы справу аб іску, паданым непаўналетнім Язэпам Альхіменкам без законнага яго прадстаўніка.

**Я. Бялінскі.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**